

# НАВІНЫ АДРАДЖЭНЬНЯ

2'92

16 студзеня

Выдаецца са сьнежня 1988.

Кошт 60 кап.

НАВІНЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

*РЭТРАСПЭКТЫВА*

## БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ АКРУГА ПАДТРЫМАЛА «ГКЧП»

***Расьследваньне акалічнасьцяў спрыяньня жнівеньскаму путчу на Беларусі ня стала набыткам публічнасьці. Тым часам камісія Ігара Пырха, як і было даручана старшынём Вярхоўнага Савету Рэспублікі падрыхтавала канчатковую справаздачу да сярэдзіны сьнежня. Яе да пэўнай меры сэнсацыйныя вынікі 14 сьнежня былі надрукаваныя ў газэце «The Guardian».***

***Прапануем вашай увазе пераклад артыкула з «The Guardian» менавіта таму, што ягоны зьмест пралівае сьвятло на асаблівасьці палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы й пакутлівы лёс вайсковага пытаньня.***

Афіцыйная камісія па расьследваньні акалічнасцяў пацярпеўшай паразу жнівеньскай змовы супроць прэзідэнта Гарбачова рэкамэндуе арыштаваць і пачаць сьледзтва супроць камандуючага савецкімі войскамі на тэрыторыі Беларусі, ягонага начальніка штабу й аднаго з членаў ваеннага савету.

Высновы камісіі, якія ўжо былі даложаныя Вярхоўнаму Савету Беларусі, учора былі перададзеныя газэце «Гардыян» чалавекам, які ўзначаліў расьсьледваньне й які баіцца, што ягоная справаздача будзе забалятаваная камуністычнай большасьцю ў беларускім парлямэнце.

Насуперак усеагульна падтрыманай афіцыйнай менскай вэрсіі, што падзеі 19 жніўня былі арганізаваныя ў Маскве, справаздача сьведчыць, што дэталёвая вайсковая падрыхтоўка на Беларусі пачалася яшчэ за год да путчу.

У ёй названыя імёны 13 асобаў, якіх трэба выгнаць у адстаўку, супроць трох зь іх мусяць распачаць крымінальную справу. Акрамя камандуючага Беларускай вайсковай акругай і ягонага акружэньня, сьпіс уключае таксама міністра юстыцыі Рэспублікі Леаніда Дашука, намесьніка міністра ўнутраных справаў, які адказвае за міліцыю, Віктара Кавалёва, старшыню Дзяржкамітэту па тэлевізіі й радыёвяшчаньні Аляксандра Сталярова й старшыню камітэту Савету міністраў па нацыянальнай бясьпецы Генадзя Данілава.

30 з 70 старонак справаздачы прысьвечаныя сакрэтнай падрыхтоўцы да путчу ў войску, там сьцьвярджаецца, што савецкія войскі ў Рэспубліцы былі прыведзеныя ў баявую гатоўнасьць адразу пасьля спробы перавароту. Яшчэ да пачатку перавароту афіцэрскі корпус быў пераведзены ў рэжым кругласутачнага дзяжурства, войскі знаходзіліся ў баявой гатоўнасьці й кантраляваліся пэўнымі групамі, было створана 49 падразьдзяленьняў, якія знаходзіліся пад наглядам КДБ.

Гэткае разьвіцьцё падзеяў дае падставы меркаваць — хаця адсутнічае дакумэнтальнае пацьверджаньне — што былі складзеныя сьпісы дзеля арышту дысідэнтаў.

Справаздача б'е найперш па камандуючым Беларускай вайсковай акругай генэрал-палкоўніку Анатолю Кастэнку, начальніку ягонага штабу Паўлу Казлоўскаму й вядучаму члену вайсковае рады генэрал-лейтэнанту Анатолю Новікаву.

Сам старшыня камісіі па расьследваньні Ігар Пырх, кадравы афіцэр рэгіянальнага падразьдзяленьня міліцыі, афіцыйна запытваў сакрэтныя вайсковыя дакумэнты й шыфраграмы, да якіх меў дачыненьне генэрал-палкоўнік Кастэнка. Адным зь іх ёсьць справазадача, накіраваная ім 19 жніўня камандуючаму Заходняй групай войскаў генэралу Постнікаву.

У ёй Кастэнка паведамляў: «Сітуацыя на Беларусі застаецца стабільнай. За выключэньнем правядзеньня мітынгу на пляцы Леніна з 17 да 18 гадзіны не назіраецца асаблівай контр-актыўнасьці з боку апазіцыйных сілаў». На гэтым мітынгу выступілі некаторыя нацыянальныя лідары апазіцыі.

Камуністычная партыя мела шматлікую большасьць у беларускім парлямэнце і ў адрозьненьне ад іншых рэспублікаў Савецкага Саюзу яе дзейнасьць была прыпыненая, але не забароненая.

Учора палкоўнік Пырх сказаў прадстаўніку «Гардыян», што зробіць усё, каб гэтыя факты дайшлі да грамадзкасьці.

Ён сказаў: «Яны (улады) ня могуць нічога зрабіць мне, таму што я дэпутат парлямэнту. Калі-б ня гэта, мяне б ужо даўно арыштавалі, вельмі даўно».

Ён прыцягнуў асаблівую ўвагу да таго факту, што хаця Беларусь мае элітныя часьці спэцназу, якія ўваходзяць у савецкую армію, у часе путчу яны былі перакінутыя зь Бярэсьця ў Кіеў (Украіна), дзе чакаўся выступ апазіцыі. Згодна перахвачанага паведамленьня Кастэнкі, цэлая брыгада ў складзе 3 000 байцоў 19 жніўня была адпраўленая туды самалётам.

Палкоўнік Пырх сумняваецца, што хаця-б нейкія лічбы зь ягонае справаздачы будуць аспрэчаныя.

«Тут пагроза застаецца, й тут можа быць другі пераварот,» — сказаў ён учора. «Гэта выцякае з далейшага захаваньня цэнтральнай улады, якая пераняла кіраўніцтва ад структураў камуністычнай партыі... Яны могуць падняцца яшчэ раз». У справаздачы сказана, што партыя мусіць быць распушчаная, а КДБ й войска выведзеныя з-пад палітычнай залежнасьці.

Палкоўнік заўважыў, што ягоная справаздача наўрад ці будзе мець дзейсныя вынікі. «Гэта трагедыя й фарс нашага становішча ў правінцыі».

**Дэвід Хэрст**

**Пераклала з ангельскай Ірына Лазоўская**

*ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ*

## Генэрал Кастэнка спрабуе паставіць на калені парлямэнт

***Галоўнай падзеяй тыдня сталі поўныя драматызму парлямэнцкія дэбаты па вайсковым пытаньні.. Лёс нацыянальнага войска й сувэрэнітэту Беларусі быў пастаўлены ў простую залежнасьць ад лёсу камандуючага Беларускай вайсковай акругіай генэрал-палкоўніка Анатоля Кастэнкі. Станіслаў Шушкевіч стаў заложнікам вайскова-камуністычнага лобі.***



Тым часам старшыня камісіі Вярхоўнага Савету Рэспублікі па расьследваньні дзеяньняў службовых асобаў у часе спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР палкоўнік Ігар Пырх яшчэ ўвосені папярэджваў пра небясьпеку, якая зыходзіць ад Анатоля Кастэнкі й ягонага акружэньня.

24 жніўня ў перапынку 5-ай надзвычайнай сэсіі Вярхоўнага Савету Беларусі камандуючы Беларускай акругі генэрал-палкоўнік А.Кастэнка заявіў у інтэрвію для беларускай службы Радыё Свабода, што зьяўляецца прыхільнікам стварэньня нацыянальнага войска. Аднак як толькі палітычнае разьвіцьцё пайшло ў накірунку рэанімацыі новаагароўскага працэсу, шаноўны генэрал перамяніў пункт погляду на карысьць агульнай і непадзельнай савецкай арміі.

На мінулай сэсіі ў выніку найцяжэйшага гандлю зь Вярхоўным Саветам Апазіцыя й С.Шушкевіч здолелі правесьці рашэньне аб стварэньні міністэрства па справах абароны, якое ўзначаліў верны старшыню Вярхоўнага Савету генэрал-лейтэнант Пётр Чавус, для якога апроч усяго іншага Беларусь ёсьць Бацькаўшчына. 2 студзеня С.Шушкевіч менавіта з П.Чавусам вёў перамовы з маршалам Я. Шапашнікавым, у часе якіх імі было заяўлена, што Рэспубліка ні з кім ня стане дзяліць вайсковую ўладу на сваёй тэрыторыі.

9 студзеня С.Шушкевіч азнаёміў парлямэнт са зьместам тэлеграмы маршала Я.Шапашнікава, паводле якое афіцэрам і салдатам, якія служаць у дысьлякаваных на тэрыторыі Беларусі вайсковых часьцёх, было загадана прысягаць на вернасьць Расейскай Фэдэрацыі й прэзідэнту Б.Ельцыну, што дазволіла без праблемаў дадаткова ўключыць у парадак дня вайсковае пытаньне.

Нарэшце 11 студзеня сэсія прыступіла да дэбатаў аб далейшым лёсе дысьлякаваных на тэрыторыі Беларусі вайсковых часьцей, якія складаюцца зь дзьвюх груповак: уласна Беларускай акругі на чале з генэрал-палкоўнікам А.Кастэнкам (каля 80 000 чалавек) і гэткай самай колькасьці войскаў цэнтральнага падпарадкаваньня. Было пастаўленае пытаньне аб перападпарадкаваньні ўсіх разьмешчаных на Беларусі войскаў Вярхоўнаму Савету Рэспублікі й рэарганізацыі міністэрства па справах абароны ў міністэрства абароны. Для генэрал-палкоўніка А.Кастэнкі засьвяціла пэрспэктыва адстаўкі: нават мала дасьведчанаму чалавеку было зразумела, што паміж генэралам-гэкачэпістам і новым міністрам абароны выбар будзе зроблены на карысьць апошняга.

Разумеючы гэта, генэрал-палкоўнік А.Кастэнка распачаў шантаж парлямэнту пагрозай збройнага непадпарадкаваньня на глебе міжнацыянальнага канфлікту й сацыяльнай неабароненасьці вайскоўца, і запатрабаваў пацьвердзіць ягоныя паўнамоцтвы ў якасьці камандуючага акругай. Безадказны генэрал быў падтрыманы авантурыстамі-гэкачэпістамі зь беларускага парлямэнту, ад імя якіх выступаў добра вядомы старшыня камісіі па публічнасьці, правох чалавека й сродках масавае інфармацыі І.Кратчэня. Як вынік пытаньне аб перападпарадкаваньні, якое некалькі разоў галасавалася ў розных рэдакцыях, не набірала больш за 170 галасоў.

Пасткай для С.Шушкевіча стала вылучаная вайскова-камуністычным лобі тэза аб тым, што праз стварэньне нацыянальнага войска ён падрывае асновы Садружнасьці. Само па сабе гэтае сьцьвярджэньне ёсьць абсурд, бо вынікам менскае нарады лідэраў краінаў-удзельніцаў СНД стала легітымацыя стварэньня нацыянальных збройных сілаў за выключэньнем стратэгічных.

Пад пастаяннай пагрозай зрыву ўсё-ж было прынятае рашэньне аб перападпарадкаваньні дыслякаваных на Беларусі войскаў Савету міністраў, а не парлямэнту, акрамя таго да прызначэньня міністра абароны пацьверджаныя паўнамоцтвы генэрал-палкоўніка А.Кастэнкі, якому даручаны кантроль над усім беларускім войскам, што само па сабе надзвычай небясьпечна, бо інтарэсы Рэспублікі й законнаабранай улады ня ёсьць першасныя для яго.

11 студзеня Беларусь атрымала нацыянальнае войска. Генэрал-палкоўнік А.Кастэнка кантроль над ім. Ці надоўга захаваецца гэты надзвычай своесаблівы парытэт?

Ірына Лазоўская.

Стар. 4



Прыгожая беларуская вёсачка Вайшхуны стала арэнай буйной авантуры з палітычным падтэкстам.

Стар. 2

Набрацца сьмеласьці й павялічыць актыўнасьць у зьнешняй палітыцы — раіць беларускаму ўраду сьпікер фракцыі ХДС-ХСС у Бундэстагу Бэрнд Вільц.

Стар. 3

«Навіны Адраджэньня» адчыняюць старонку Нацыянальна-дэмакратычнае партыі Беларусі.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

*У дысбат трапляюць раней несудзімыя юнакі ва ўзросьце 19–20 гадоў. Мяркуецца, што яны ня ведаюць турэмных законаў. Аднак, як і на любой «зоне» у ротах дысбату асуджаныя падзяляюцца на «цэнтравых», «мужыкоў», « і нават «паханоў», «ніфеляў», «апушчаных». і «пеўняў».*

# ДЫСЦЫПЛІНАРНЫ БАТАЛЬЁН: ПАЛЯВАНЬНЕ НА ЛЮДЗЕЙ

Наяўнасьць гэтага каставага разьдзяленьня актыўна выкарыстоўваецца камандаваньнем. Адным з чыньнікаў падтрыманьня дысцыпліны за кошт г.зв. «нестатутных адносінаў» у дысбаце зьяўляецца распальваньне міжнацыянальнае варожасьці: у каўказскія роты спэцыяльна ўключаюць мусульман.

Уласна «нестатутныя адносіны» разьвіваюцца па наступнай схеме. Утвараецца пэўная групоўка, якой удаецца нечым зацікавіць адміністрацыю й атрымаць ад яе падтрымку. Гэтая групоўка атрымоўвае назоў «цэнтравая» й мае права на лепшую ежу ў сталовай, на першынства ў чарзе ў буфэце, на койкі ў ніжнім ярусе, на асобныя ракавіны дзеля ўмываньня й на спэцыяльныя кабіны ў прыбіральні, нарэшце, на сваю долю ў любой пасылцы, калі яе зьмесьціва раней не дастанецца якому-небудзь адказнаму афіцэру. Існуюць прывелеі і для г.зв. «апушчаных». І ня дай Бог, нехта зблытае й скарыстаецца прызначанымі для гэтае катэгорыі ўмывальнікам ці прыбіральняй. Ён сам стане «апушчаным». Дзеля выратаваньня такому салдату прыйдзецца пры сьведках есьці мыла.

Права стаць «цэнтравым» дае добрая фізічная падрыхтоўка або сіла характару, якія высьвятляюцца праз бойку.

Яшчэ лепш быць г.зв. «набліжаным». «Набліжаны» – гэта асуджаны, які ня ўдзельнічае ў работах разам з ротай, а выконвае толькі спэцыяльныя даручэньні. Зь імі «цэнтравыя» імкнуцца не псаваць дачыненьні. І часам нават афіцэрам прыходзіцца адстойваць права на павагу да сябе. Для таго, каб стаць «набліжаным», трэба мець дэфіцытную спэцыяльнасьць або мастацкія здольнасьці. Асабліва лёгкае жыцьцё выпадае ювэлірам, разьбярам, радыётэхнікам, мастакам.

Мейсца такіх там, дзе цёпла й можна выспацца, пакуль рота зрывае мазалі на будоўлях, а задача – саматужнічаць: маляваць карціны для афіцэрскіх лецішчаў, рабіць часопісныя столікі або кухні, інкруставаць асады паляўнічае зброі, рапараваць абутак штабным. Матар'ял для гэтай «вытворчасьці» асуджаныя крадуць з будоўляў, а дэфіцыт прывозяць бацькі.

Разьмеркаваньне працоўных рук дысбату – прэрэгатыва выключна камандзіра часьці, які можа даць людзей на будоўлю лецішча альбо лазьняў, калі яму гэта выгодна, а можа й ня даць. Камандзір часьці ня грэбуе адпраўкай ва ўпраўленьне кадраў фальшывых дакумэнтаў, правядзеньнем фіктыўнае шпіталізацыі, якая дазваляе схаваць каго-нікага на час візіту вышэйшага камандаваньня, выкарыстаньнем сабак супраць упартых афіцэраў.

«Апушчаным» могуць зрабіць альбо самі асуджаныя, альбо адміністрацыя, якая пераняла гэты спосаб зьвядзеньня рахункаў дзеля ўмацаваньня вайсковай дысцыпліны. «Апушчаныя» выконваюць ролю прыслужнікаў. Ім звычайна дастаецца сама цяжкая й ганебная праца. Гэта слабыя фізічна й духоўна хлопцы, дрэнна падрыхтаваныя да жорсткіх умоваў жыцьця.

Дзеля зьвядзеньня рахункаў выкарыстоўваецца, напрыклад, такі спосаб як падвешваньне, у часе якога на заламаныя за спіной рукі асуджанага адзяваюць наручнікі, замацоўваюць на іх адзін канец папругі, а другі перакідваюць праз арматуру на ўзроўні лапатак. Затым цягнуць за вольны канец папругі, пакуль пакараны не згінаецца напалам і не пачынае цягнуцца пальцамі ног да зямлі, каб мець хаця-б нейкую апору. Іншы спосаб зьвядзеньня рахункаў – «ластаўка», пад час якой чалавека кладуць на жывот, на рукі за спіной адзяваюць наручнікі, ногі згінаюць у каленях і зьвязваюць папругай, другую папругу падсоўваюць пад горла, нацягваюць, прывязваюць да ног і прымацоўваюць за наручнікі. Асуджанаму Аванэсяну, якога катавалі «ластаўкай» больш за гадзіну, гэта ледзь не каштавала жыцьця.

Пасьля «ластаўкі» чалавека апускаюць галовай ва ўнітаз.

Камандаваньне апраўдвае практыку катаваньняў патрэбамі дысцыпліны й робіць іх на вачох караулу, які паступова пачынае адчуваць патрэбу ў паляваньні на людзей, ад чаго й пайшоў назоў роты аховы – «паляўнічыя». Праз сваіх стукачоў або праз сьведкаў з гаўптвахты інфармацыя пра апушчэньне перадаецца адміністрацыяй на зону, пасьля чаго «апушчанага» сустракаюць поўнай ізаляцыяй: да яго не дакранаюцца, у яго нічога нельга ўзяць, як і даць яму. Гэты сродак выхаваньня, на думку камандаваньня, мусіць узьдзейнічаць на астатніх.

Шырока выкарыстоўваецца і стукацтва, і нягледзячы на тое, што быць стукачом на зоне лічыцца самым вялікім грахом, аднак даносяць усе, бо гэта ёсьць падмурак дысцыпліны. Гэтаксама знаходзяцца пад наглядам і афіцэры, якія, як і асуджаныя, падзяляюцца на касты, розьніца толькі ў тым, што ў нашым асяродку гэта выглядае больш цывілізавана.

Спробы пратэсту ня йдуць далей за курылку. Спрацоўвае страх за мейсца ў сталіцы, пэрспэктыва пераводу за Урал, якімі палохаюць проста на нарадах. Усё камандаваньне ад начальніка ваенгандлю да дырэктароў заводаў, дзе таксама патрэбныя рукі дысбатаўцаў павязанае кругавой парукаю.

Ці можна ўсё гэта выкараніць? На маю думку, шлях адзін – прафэсійнае войска. Першы крок у гэтым кірунку – стварэньне нацыянальных часьцей, але не па экстэрытарыяльным прынцыпе. Безумоўна, трэба рэфармаваць вайсковае заканадаўства, каб яно арыентавалася на нацыянальныя часьці.

**Камандзір дысцыплінарнага ўзводу капітан Аляксандар Бабыр.**





АВАНТУРЫ

*Веданьне законаў чалавечае маралі не азначае іх выкананьне. Пра чалавека мяркуюць не па словах, а па справах. Час, калі заваёўвалася танная папулярнасьць і здавальняліся амбіцыі шляхам папуліцкае крытыкі бальшавіцкага рэжыму, сышоў. Надыйшоў час веснавога севу, а значыць актыўнае апантанае працы на ніве сапраўднае дэмакратыі й Адраджэньня, якая не дазваляе фальшы, і ва ўсіх навідавоку. Яна вымагае ад чалавека поўнае самааддачы, яе нельга рабіць бруднымі рукамі. Па яе выніках можна меркаваць ня толькі пра веды й здольнасьці чалавека, але, галоўнае, пра тыя маральныя чыньнікі, якія прывялі чалавека ў шэрагі сейбітаў новага.*

# ПРА КААПЭРАТЫЎНЫХ ПЧОЛАЎ І ПАЛІТЫЧНЫХ «ПЧОЛАК»

Гісторыя, якую я хачу распавесьці, прыцягнула маю ўвагу не сваёй сэнсацыйнасьцю, а наадварот, сваёй будзённасьцю й тыповасьцю. Я маю на ўвазе працэс згортваньня прыватнага прадпрымальніцтва. Адметны гэты выпадак толькі тым, што ў ім дзіўным чынам спалучыліся ў адно інтарэсы й пазіцыя чалавека, які лічыць сябе сапраўдным дэмакратам – старшыні Лігі жанчын Г.Казловай і былога першага сакратара КПБ Пастаўскага раёну, намесьніка старшыні райвыканкаму й дэпутата ВС РБ В.Чэпіка. Пазіцыя апошняга ў справе прыватнага прадпрымальніцтва простая й цалкам адпавядае ідэялягічным устаноўкам ягонае былое партыі. На жаль, у «чырвоным» лягеры апынулася й спадарыня Казлова, праўда, у гэтым выпадку матывацыя была іншая...

Ня так даўно група інтэлігентаў дэмакратычнае арыентацыі купіла сабе пад лецішчы дамы зь зямельнымі надзеламі ў вёсцы Вайшхуны ў Пастаўскім раёне. Але паступова іхнія апэтыты павялічыліся настолькі, што яны вырашылі скупіць усю вёску й стварыць у ёй запаведную вотчыну для сябе й для людзей свайго вузкага кола. Патрэбы карэнных мяйсцовых абарыгенаў і ў разьлік не прымаліся, тым болей, што ўсе яны былі пэнсіянэрамі калгаснага значэньня. Неяк непрыкметна, а мо' сьвядома, перасяленцы прыйшлі да высновы, што ўся зямля навокал стала іхнім уладаньнем і ніхто іншы ні з-за якіх, нават самых высакародных матываў у іхні барскі маёнтак занурацца не павінен. Але цесны гэты сьвет – знайшліся-такі сьмелыя прадпрымальнікі (у добрым сэнсе гэтага слова), работнікі каапэратыву «Час» і парушылі цнатлівы спакой наваяўленых калянізатараў. Яны вырашылі заняцца вельмі важнай для радыяактыўнай Беларусі справаю – гадаваньнем пчолаў і зборам гэтак патрэбнага нам мёду, пчалінага малачка й яду. Але для гэтага патрэбныя ідэальныя ў экалягічным пляне палі. Лепшага мейсца, чым зямля вакол возера Балдук, знайсьці наўрад ці ўдалося-б. Каапэратыў афіцыйна заключыў дамову зь мяйсцовым саўгасам наконт рэканструкцыі разваленае стайні й пачаў на яе мейсцы будаўніцтва «Дома пчаляра». Але-ж не! Дэмакраты, прыкрываючыся сьцягам БНФ і высунуўшы на перадавыя пазіцыі свайго лідэра – Галіну Казлову, пачалі барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць. У гэтай бойцы ім вельмі дарэчы прыдаўся досьвед палітычных праціўнікаў. Хаваючы сапраўдныя намеры – нікога не пускаць! – яны, прыкрыва-ючыся прыгожымі словамі пра клопат аб навакольным асяродзьдзі й барацьбу супраць камуністычнае мафіі, пайшлі на яўную фальсіфікацыю й хлусьню. Спачатку нараджаецца вэрсія пра тое, што будуецца лецішча для сына Камая. Пішацца адпаведная заява ў Вярхоўны Савет. Да справы падключаецца Апазіцыя БНФ у асобе эмацыйнае Галіны Сямдзянавай. Апошняя з намесьнікам старшыні БНФ Юрыем Хадыкам наведвае крымінальнае будаўніцтва, потым старшыню пасялковага савету В.Кузьміч, дае ёй разгон і «дэмакратычную» ін'екцыю ў ейныя правінцыйна-кансэрватыўныя мазгі; тая ў жаху.

Вярнуўшыся ў сталіцу (не палічыўшы патрэбным праверыць факты), шаноўны дэпутат дае далейшую хаду заяве сп. Казловай. І палілася вада на млын спадара Чэпіка. Ён-жа сьпіць і мроіць прыдушыць каапэратараў, а тут Апазіцыя стала на ягоны бок! Праўда, калі вэрсія пра захады камуністаў абрынула, на першы плян высунулася ідэя абароны возера Балдук.

Чэпік дае каманду: «Узяць каапэратараў!», і адданыя яму вартавыя псы адразу-ж кінуліся выконваць каманду. Дзякуй богу, тут і жнівеньскі путч падваліў. Зьяўляецца артыкул у раённай газэце пра шкоднікаў-каапэратараў. 21 жніўня на будоўлю прыязджае памочнік пракурора раёну й начальнік мяйсцовае міліцыі. Апошні, назваўшыся кіраўніком раённага ГКЧП, загадвае будаўнікам спыніць працу, у выпадку невыкананьня – крымінальная адказнасьць.

Будоўля, у якую ўкладзеныя велізарныя сродкі, праца й дэфіцытныя матар'ялы, замёрла.

Маскоўскія гэкачэпісты арыштаваныя, а нашыя як кіравалі, гэтак і кіруюць. На ўсе запыты старшыні каапэратыву сп. Кручонка прыходзяць адмоўныя адказы зь лірычнымі абгрунтаваньнямі. Ён зьвяртаецца на радыё, тэлебачаньне, у рэспубліканскія газэты, але ўсюды яго адсылаюць са спасылкаю на палітычную афарбоўку гэтае справы.

Такі зьмест гісторыі, за працягам якой я буду пільна сачыць. Бо прыкладаў, падобных на гэты, не пералічыць. Лёгка з высокіх трыбунаў казаць пра падтрымку прыватнага прадпрымальніцтва. Пара даць нашым беларускім бізнэсмэнам рэальную падтрымку.

Перш чым сесьці за напісаньне гэтага артыкула я вельмі падрабязна азнаёміўся зь дзейнасьцю каапэратыву «Час» і пазіцыяй бакоў. Сьцісла...

Каапэратыў «Час»: вырабляе аконныя й дзьвярныя карнізы, будаўнічыя блёкі, дзіцячыя цацкі, нескладаную мэблю, вульлі ды інш. Займаецца дабрачыннай дзейнасьцю, выдаткаваў дзесяткі тысячаў рублёў малазабясьпечаным грамадзянам Мядзельскага й Вузьдзенскага раёнаў, значную сумму на бясплатнае харчаваньне дзяцей у вёсцы Целякова. Бясплатна перадае мёд чарнобыльскім дзецям. Займаецца пчалярствам, якое ёсьць індыкатарам экалягічна чыстае гаспадаркі.

**Г.Казлова:** Ніякага будаўніцтва не дазволю. Дайду да Кебіча. Раз у гэтую справу замяшалі БНФ, падыму на ногі міжнародны экалягічны рух, але свайго даб'юся. Калі я, вядучы навуковы супрацоўнік, жыву кепска, то ня дам квітнець і наваяўленым мільянэрам.

**В.Чэпік:** Я супраць, бо для мяне галоўнае – захаваць прыроду. Справа набыла занадта шырокую вядомасьць, і ваяваць з Казловай бессэнсоўна. Кампэнсацыю за страты мы выплацім.

**В.Кузьміч, старшыня паселковага Савету:** Я зацікаўленая прывабіць на сваю тэрыторыю капітал. Гэта эканамічна выгодна. Хутчэй за ўсё, я падпішу дамову. Але вы ня ведаеце магчымасьці Казловай і пазіцыю Чэпіка, а мне тут яшчэ працаваць.

**Е. Макаранка, старшыня саўгасу:** Мне гэтая будоўля выгодная, я я ня супраць.

**Падпалкоўнік міліцыі, старшыня былога ГКЧП раёну:** Была-б мая воля, я-б іх усіх разагнаў.

**Мяйсцовыя жыхары:** Усе як адзін – за!

**В.Сядоў:** Мяркую, што разважлівасьць возьме верх і справа вырашыцца без суда. Усе ўдзельнікі канфлікту павінны адказаць на адно пытаньне: «Ці патрэбны нашым дзецям мёд?»

**Падрыхтаваў Валеры Сядоў.**


НАВІНЫ АДРАДЖЭНЬНЯ
16 студзеня, 2'92

**Намесьнік рэдактара Ірына Лазоўская**

**Нумар падрыхтавалі:** Алена Вашчанка, Алена Галаўчак, Тамара Дайнека, Юры Драздоў, Аляксандар Лазоўскі, Уладзімір Панада, Юры Рагуля, Сяргей Раманько Валеры Сядоў.
**Заснавальнік** Зянон Пазьняк. Ліцэнзія №67. Меркаваньне аўтараў публікаваных матар'ялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі й кіраўніцтва БНФ. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе й не вяртае.
**Адрас рэдакцыі:** 220050, Менск, вул.К.Маркса, 25–79. Тэл. 27-06-04. Падпісны індэкс 63895. **Аршанская друкарня, наклад 16.000, замова № 111.**